

№6 (53)
Верасень 2013

# Рэчыцкі агляд

Незалежнае выданне Выдаецца з 1999 г.


## У Рэчыцы з размахам прайшлі святкаванні 800-годдзя горада

**На святкаванні 800-годдзя Рэчыцы Вітаўт размаўляў па-расійску, рыцары прасілі грошай на трасянцы, а афіцыйны сцяг вісеў дагары нагамі.**




У Рэчыцы з размахам прайшлі святкаванні 800-годдзя горада. У першы дзень святаў былі адчыненыя помнікі ветэранам лакальных войнаў, музей Паветрана-дэсантных войскаў і бюст галоўнакамандуючага ПДВ СССР В. Маргелава, а таксама пажарная машына, як помнік ліквідатарам наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Асноўныя ўрачыстасці свята прыпалі на прайшоўшую суботу. Яны пачаліся на Цантральнай плошчы горада з афіцыйнага адкрыцця памятнага знака – каменя, на якім расійскай моваю напісана “Речица 800 лет”. Традыцыйным шэсцем, якое засталося ў спадчыну ад савецкіх дэманстрацый, і без якога не абыходзіцца ніводнае гарадское свята, прайшліся працоўныя калектывы. А потым адбылася ўрачыстая дзея, з тэатралізаваным паказам гісторыі горада. Усё, што ладзілася на сцэне і перад ёю гучала па-расійску. І толькі выступ старшыні Рэчыцкага райвыканкама Віталя Панчанкі сваім моцным беларускім акцэнтам расійскай мовы, якою быў напісаны тэкст на паперцы, што ён чытаў, выдаваў, што падзеі ўсё ж адбываюцца ў беларускім горадзе. Ды яшчэ не зусім “ідэалагічна вытрыманай" аказалася ўступная харэаграфічная кампазіцыя, калі дзяўчынкі ў белым і чырвоным адзенні ўтварылі бел-чырвона-белыя палоскі перад сцэнай.

Большая частка гісторыі Рэчыцы прайшла ў тыя часы, калі тут панавала старабеларуская мова. Але мясцовыя тэатралізатары выклалі ўсю гісторыю горада ў расійскім варыянце. Нават князь Вітаўт, які валодаў горадам у XIV стагоддзі, мовіў чамусьці, седзячы на белым кані: “Повелеваю в этом граде замок

заканчэнне на стар. 3



**Миллионы евро пропадают**

*3-я старонка*



**Жители Речицкого района свиней без боя не отдают**

*4-я старонка*



**К кому охладели белорусы?**

*5-я старонка*

# На ОАО "Речицадрев" простаивает оборудование стоимостью в миллионы евро

**Факты неэффективного расходования кредитных средств, нерационального использования топливно-энергетических и материальных ресурсов, а также другие нарушения законодательства выявил Комитет государственного контроля Гомельской области.**

Установлено, что еще два года назад в рамках проекта по модернизации производства древесно-стружечных плит (ДСП) предприятие приобрело вакуумно-мембранный пресс и сверлильно-обрезной станок общей стоимостью 114,5 тыс. евро. Эти деньги были получены в кредит под гарантии правительства Беларуси.



При этом на момент закупки "Речицадрев" не имела в нужных объемах ни технологий, ни другого оборудования, необходимого для выпуска всех компонентов мебельного производства. Кроме того, не была проведена процедура выбора поставщиков сырья. В связи с чем итальянские машины не используются до настоящего времени.

Схожая участь постигла и другое оборудование, закупленное для реализации проекта. С конца 2011 года практически не используется короткотактовая линия ламинирования плиты ДСП стоимостью 2,4 млн евро, также купленная в кредит. При проектной мощности выпуска 8 млн кв. м ламинированной плиты в год (такие объемы возможны при трехсменном режиме работы), за все время произведено лишь 1,1 млн кв. м. Загрузка линии в 2012-м и в первом полугодии 2013 года составила всего 17% и 2,8%.

Не обеспечена эффективная работа пресса холодной подпрессовки пакетов шпона, купленного в Украине также за кредитные 96,1 тыс. евро почти три года назад. В ходе производственного процесса пресс не выполнял своего предназначения - склеивания шпона, то есть, по сути, использовался в холостую. Это повлекло и бесполезную затрату 37,5 тыс. кВт/ч электроэнергии стоимостью более 21,5 млн руб.

Также руководством предприятия не были приняты меры по экономии средств (в том числе бюджетных) на реализацию инвест-проекта, обернувшегося сплошными убытками. В частности, при строительстве и реконструкции шести объектов не уменьшено их финансирование на суммы, полученные от реализации возвратных материалов – металлолома. Это является нарушением нормативных актов, повлекшее в данном случае ущерб на 5,6 млрд руб, пишет TUT.BY.

"*...Рассматривается вопрос о привлечении ОАО "Речицадрев" и его должностных лиц к административной ответственности за допущенные правонарушения,* – *сообщает пресс-служба КГК Гомельской области. Кроме того, Комитетом области произведено уменьшение запрашиваемого объема финансирования строительства и реконструкции объектов в рамках модернизации действующих производств на 36,6 млрд руб. за счет исключения расходов на приобретение грузоподъемной и заготовительной техники и затрат на пусконаладочные работы*".

Роман Карпов

---

# Пад Рэчыцай затрымалі прадстаўнікоў кааліцыі «За сумленныя выбары»

Прадстаўнікі дэмакратычніх сіл Гомеля накіроўваліся ў Мінск на канферэнцыю кааліцыі «За сумленныя і справядлівыя выбары для лепшага жыцця».

Як паведаміў рэгіянальны каардынатар Уладзімір Кацора, па дарозе на канферэнцыю альянсу «За сумленныя і справядлівыя выбары для лепшага жыцця „Талака“, затрыманыя дэлегаты Гомельскай вобласці. Падстава — маўляў, аўтамабіль скрадзены, да і трэба было праверыць яго тэхнічны стан.

Відавочцы ўдакладняюць, што, нібыта, «машына рэчыцкіх супрацоўнікаў ДАІ здагнала машыну гомельскіх актывістаў пасля таго, як яны ўжо ад’ехалі на 20 кіламетраў ад Рэчыцы па светлагорскай трасе».

працяг тэмы на стар.5

# У Рэчыцы з размахам прайшлі святкаванні 800-годдзя горада

заканчэнне, пачатак на стар. 1

построить!". Потым і кароль Рэчы Паспалітай Сігізмунд III таксама невядома з якога перапугу выдаў расійскамоўны прывілей на наданне Рэчыцы Магдэбурскага права.

Тэатралізацыя 500-гадовай гісторыі знаходжання Рэчыцы ў складзе ВКЛ заняла значна менш часу, чым расповяд пра 200 год знаходжання горада пад расійскай уладай. Тут невядома якім ветрам занесла на святкаванне расійскіх цароў з царыцамі, у падрабязнасцях была разыграная "ярмарка", дзе аднекуль з-пад Масквы, напэўна, у Рэчыцу прыскакалі аж два Пятрушкі, а Другая сусветная вайна, як звычайна, сталася адзіным шчымлівым момантам з гісторыі, калі Рэчыца панесла нейкія чалавечыя страты.



Імклівы кліп пад песню "Пока течет белорусская нефть" і выхад прадстаўнікоў асноўных прадпрыемстваў на сцэну, падчас якога найбольш эфектна прадэманстравалі сябе два хлапцы з Рэчыцкага метызнага завода, паказаўшыя народу свае бліскучыя балты, завяршыў афіцыйную цырымонію адкрыцця свята.

Калі людзі бяруцца святкаваць тое, у што самі не асабліва вераць і што не з'яўляецца для іх нейкай каштоўнасцю, калі яны робяць свята не для сябе і сваіх землякоў, а для ўлады (з-за яе здаровага апетыту ў час фуршэта, з якога "афіцыйныя твары" на паўгадзіны спазніліся на Набярэжную, дзе дзесяцігадовыя выхаванцы цэнтра патрыятычнай падрыхтоўкі "Скіф" меліся прадэманстраваць цуды ліквідацыі тэратыстычнай групоўкі, дарэчы, давялося затрымаць выступ, то вядома ж, і ляпаў ды ўсялякіх праколаў атрымліваецца вельмі шмат. Напрыклад, каля пабудаванага да рэспублі-канскіх Дажынак, што ладзіліся ў Рэчыцы ў 2007-м, амфітэатра, на сцэне якога падчас святкаваня юбілею горада выступалі многія калектывы, у тым ліку расійская група "Фрыстайл", афіцыйны чырвона-зялёны сцяг Рэспублікі Беларусь, спяшаючыся, павесілі дагары нагамі – так ён усе канцэрты і правісеў. На нова-ўсталяванай дзіцячай пляцоўцы я доўга ўглядаўся ў нейкую драўляную скульптуру і не мог пазнаць, што гэта за такі цуд для дзяцей там выдзяўблі. Аказалася – дэльфін. Нешта пасля сваіх першапачатковых здагадак я сябе адчуваў нейкім разбэшчаным! А сябры мясцовага расійскамоўнага клуба гістарычнай рэканструкцыі "Тэра" выклалі на сваім стале з прыладамі аб'яўку, дзе распавялі, што за фоткі з рыцарамі трэба плаціць. Праўда хацелі яны, мусіць, пакрэатывіць, але атрымалася проста смешна – трасянка ў жыцці...




Увогуле, беларускую мову ў вонкавым аздабленні свята я знайшоў толькі на гандлёвым намёце Лоеўскага райспажыўтаварыства. Нават сярод сувеніраў з выявамі, прысвечанымі юбілею, што прадаваліся гандлярамі так званага "Гораду майстроў", па-беларуску былі аздобленыя лічаныя адзінкі. Затое, паміж столікамі з глінянымі глечыкамі ды шкарпэткамі з вярблюжае воўны давялося ўбачыць жанчыну, якая гандлявала... малебнамі перад святымі абразамі. Праўда пачуўшы маю беларускую мову называць цану сваіх паслуг яна адмовілася, сказаўшы, каб я ішоў адтуль...

У нядзелю святкаванні працягнуліся выступамі самадзейных калектываў Рэчыцы і раёна на сцэне ўсё таго ж амфітэатра на Дняпры, а ўвечары рэчычан весяліў ансамбль "Песняры".

Вядома ж, пра такі юбілей хацелася б напісаць жыццярадасны і натхняльны рэпартаж, усё ж – раз у сто гадоў такое бывае ды й тыя, хто ўсё гэта рабіў, сапраўды стараліся, на многіх нават глядзець было немагчыма, такія яны былі закатаваныя гэтай падрыхтоўкай. Але, менавіта, з тае прычыны, што гэты юбілей горада прыпаў на часы нахабнага, агрэсіўнага і суцэльнага абрасійвання нашай зямлі, і быў амаль дакладна вытрыманы ў курсе палітыкі ўлады ў гэтым накірунку, пісаць нешта вясёлае пра яго няма аніякага жадання. Бо, калі нават Вітаўта дадумаліся зрабіць расійскамоўным, нацыянальнага гонару ў такіх рэжысёраў і іхніх босаў ані не стае...

Андрусь Гаёвы

# Жители Речицкого района свиней без боя не отдают

Небольшая сводка с фронта борьбы со свиной чумой.

За нарушения запрета держать свиней на личных подворьях, которые попали в буферную зону, были оштрафованы 22 жителя Речицкого района Гомельской области.

По словам Сергея Сташка, председателя административной комиссии, в общей сложности нарушители выплатили более восьми миллионов рублей, при минимальной величине штрафа в сто тысяч, а максимальной в полтора миллиона белорусских рублей. При этом в поле зрения комиссии не попадали повторные случаи нарушения физическими лицами ветеринарных правил.

Постановление Министерства сельхозпродукции №30 гласит, что в радиусе пяти километров от больших свинокомплексов на личных подворьях свиней запрещается. Что касается Речицкого района, то туту



два крупных свинокомплекса — «Демехи» Речицкого комбината хлебопродуктов и филиал «Советской Белоруссии». В связи с вспышкой африканской чумой свиней, данные комплексы переведены на закрытый режим функционирования, реализуется план по защите поголовья скота от эпидемии.

Представители Гомельского райисполкома утверждают, что пока что никого за нарушение административных правил, административная комиссия не оштрафовала. В пятикилометровую зону в Гомельском районе попали только несколько населенных пунктов. Это касается Прибытковского, Урицкого и Терюхского сельсоветов.

В Гомельском районе также принимаются меры по профилактике АЧС, так как на крупнейших свинокомплексах «Южный» и «Сож» содержится порядка 130 тысяч свинок.

Несколько человек за нарушение постановления были оштрафованы в Мозырском районе, где имеется три свиноводческого хозяйства. Здесь также усилены профилактические меры.

В Светлогорском районе, в связи с нарушением правил содержания свиней в связи с африканской чумой свиней поступило несколько протоколов, которые позже были направлены на доработку, а в Брагинском районе очага АЧС не обнаружено.

Максим Ковалев

# Дзівосы на дарогах, альбо “год беражлівасці ў дзеянні”

**Цікавыя рэчы можна пабачыць на нашых дарогах.**

Іду я нядаўна да прыпынку аўтобусаў каля аграгарадка Перасвятое і бачу - цёткі дарогу мятуць! Ну, думаю, мо нейкае начальства мусіць прыехаць, не інакш.

Падыходжу і пытаюся: “А што гэта вы робіце?”

Яны адказваюць з усмешкаю: “Дык рабіць у саўгасе няма чаго, таму і мяцём!”

“А хто гэта загадаў вам рабіць?” – пытаюся, “Дык начальства” адказваюць.

Прыглядаюся да дарогі і бачу - уся яна засыпаная кукурузай і тым, што ад яе засталося пасля праезду машын. Вось табе і год беражлівасці! А так званы прэзідэнт грошы па ўсім свеце шукае для папаўнення бюджэту і, нават, са сваіх грамадзян па 100 даляраў хоча браць, калі тыя за мяжу хочуць выехаць.

Вось так працуюць у КСУП “Выток” Рэчыцкага раёну.

Кастусь Алешка



# Рэчыцкія чыноўнікі не чытаюць законаў

**Актывіст прафсаюза РЭП Андрэй Стрыжак скардзіцца ў пракуратуру на незаконнае рашэнне Рэчыцкага райвыканкама. Ён лічыць што рашэнне, на падставе якога выносілася забарону масавага мерапрыемства, незаконнае і падаў заяву ў пракуратуру у якой паказвае на супярэчнасці рашэння мясцовых уладаў Закону "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь".**



"Пасля атрымання адмовы ў правядзенні шэсця, на якім я хацеў падняць тэму змяненняў у парадку выплат па бальнічным лістку, я азнаёміўся з рашэннем Рэчыцкага райвыканкама, спасылаючыся на якое мясцовыя ўлады забаранілі правесці масавае мерапрыемства. У рашэнні паказана дакладнае месца, дзе дазволена правядзенне шэсцяў і дэманстрацый, аднак, не пазначана дзе ў горадзе такія мерапрыемствы праводзіць забаронена, хоць артыкул 9 Закона " Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", наўпрост абавязвае мясцовыя ўлады гэта зрабіць".

"У Законе выразна прапісана каля якіх месцаў забаронена праводзіць масавыя мерапрыемствы. Аднак, на шляху заяўленага мной маршруту не было ні ядзерных электрастанцый, ні пасольстваў, а калі і былі нейкія з аб'ектаў, якія ўваходзяць у лік забароненых, то чаму б не запрасіць мяне ў райвыканкам і ня абмеркаваць варыянт маршруту які задаволіў бы і мяне і ўлады ? Сваёй адмовай на падставе незаконнага рашэння Рэчыцкі райвыканкам не пакідае мне іншага выбару як абскардзіць іх дзеянні ў судзе і заявіць у пракуратуру аб неадпаведнасці рашэння мясцовых уладаў Закону", - пракаментаваў сітуацыю Андрэй Стрыжак .

Нагадаем, што папярэдняя судовая цяжба актывіста прафсаюза РЭП пасля праходжання ўсіх унутраных інстанцый цяпер разглядаецца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Роман Карпов

# Гісторыя з праследам і затрыманнем гомельскіх дэмакратаў, або цырк па-рэчыцкі

Начальнік Рэчыцкай міліцыі Андрэй Сілкоў не бачыць нічога падазронага ў тым, што яго падначаленыя на дваццатым кіламетры аўтадарогі Рэчыца-Светлагорск праследавалі і затрымалі аўтамабіль з дэлегатамі рэспубліканскай Канферэнцыі "За сумленныя, справядлівыя выбары для лепшага жыцця" усяго толькі з-за "магчымай неадпаведнасці завадскога мацавання шыльды з ідэнтыфікацыйным нумарам аўтамабіля".

Пра гэта палкоўнік раённай міліцыі паведаміў лідэру гомельскіх дэлегатаў Канферэнцыі Уладзіміру Кацора.

"Выкладзеныя Вамі факты аб парушэнні заканадаўства супрацоўнікамі ДАІ Рэчыцкага РАУС не знайшлі свайго аб'ектыўнага пацверджання. У цяперашні час кіраўніцтвам УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама праводзіцца праверка па факце выяўлення супрацоўнікамі ДАІ магчымай неадпаведнасці завадского мацавання шыльды з ідэнтыфікацыйным нумарам аўтамабіля" - напісаў галоўны рэчыцкі міліцыянт у адрас гомельскіх дэмакратаў.

"З аб'ектыўнага пункту гледжання, выкарыстоўваючы міліцэйскую тэрміналогію, сітуацыя выглядае абсурдна. Уявіце даішнікаў, якім раптам на адлегласці здалося, што ў рухаючымся дзесьці аўтамабілі, якога яны ніколі ў сваім жыцці не бачылі, магчыма, не правільна замацавана таблічка пад капотам. "Гаёвыя" кідаюць свае справы і пачынаюць праследваць гэты аўтамабіль-прывід... Бачна, што палкоўнік міліцыі, хаваючы вочы ад сораму, такую сітуацыю сабе ўяўляе, - смяюцца дэмакраты.

Гомельскія актывісты лічаць, што праваахоўнікі здзейснілі крымінальнае злачынства па артыкуле 194 КК, а менавіта перашкаджалі законнай дзейнасці грамадскага аб'яднання І ўмяшаліся ў яго законную дзейнасць. Працягваючы называць гісторыю з затрыманнем дэлегатаў палітычным "вышукам", Уладзімір Кацора патрабуе ўзбудзіць супраць міліцыянтаў крымінальную справа, а таксама выявіць службовую асобу, якаючы аддала ім незаконныя загадзяць на праслед і затрыманне дэмакратаў.

Ян Ілын

# Дырэктар Рэчыцкага аўтапарку называе краіну «Белоруссией» і ня хоча вяртаць беларускую мову

**Грамадзкія актывісты ў Рэчыцы змагаюцца за вяртаньне беларускамоўных абвестак у грамадзкі транспарт**

За апошнія месяцы у грамадзкім транспарце Рэчыцы стала радзей гучаць беларуская мова. У прыватнасьці, у пачатку года расклады руху гарадзкіх аўтобусаў на прыпынках замянілі на расейскамоўныя. Перад сьвяткаваньнем 800-гадовага юбілею горада па-расейску вырабілі і шыльды з назвамі маршрутаў, якія ўсталёўваюцца на саміх аўтобусах.

Рэчычанін Андрэй Мядзьведзеў накіраваў ў аўтобусны парк № 3 зварот з просьбай не зьмяншаць выкарыстаньне беларускай мовы ў гарадзкім грамадзкім транспарце і прапанаваў дапамогу ў перакладах тэкстаў на беларускую мову, калі гэта выклікае цяжкасьці ў супрацоўнікаў аўтапарку, паведамляе суполка «ТБМ Гомель»

Першы адказ быў падпісаны дырэктарам аўтапарку Яўгенам Ярцам па-расейску, а ў тэксьце замест Беларусі назва краіны фігуравала як «Белоруссия». У адказе чыноўніка тлумачылася, што па-беларуску ў Беларусі размаўляюць толькі 26% беларусаў, а 83,3% ўдзельнікаў рэфэрэндуму 1995 года прагаласавалі за наданьне расейскай мове статусу дзяржаўнай.

Мядзьведзеў у сваім лісьце зьвяртаў увагу на відавочныя моўныя памылкі у аўдыёабвестках у транспарце. Напрыклад, «вуліца Чырвоназнамённая», альбо «Наступны прыпынак — Вакзал. Канцавая». Рэчыцкія транспартнікі адказалі, што гэтая аўдыёпраграма праходзіла мовазнаўчую экспэртызу.

Тады актывіст накіраваў новы допіс у аўтапарк, дзе адзначыў парушэньне артыкулу 18 Закону аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб, які вымагае адказ на пісьмовы зварот на мове звароту. Пры гэтым ён сфармуляваў да аўтапарку тры пытаньні: прасіў прыцягнуць да адказнасьці службовых асобаў, якія падрыхтавалі расейскамоўны адказ на папярэдні яго беларускамоўны зварот, у якім не далі канкрэтнага адказу на ўзьнятыя пытаньні. Таксама ён прасіў паведаміць, на якой мове плянуецца вырабляць шыльды з раскладам руху на прыпынках і з назвамі маршрутаў на аўтобусах, а таксама назву ўстановы, якая праводзіла мовазнаўчую экспэртызу аўдыёпраграмы абвяшчэньня прыпынкаў.

Тады кіраўнікі прадпрыемства даслалі адказ за подпісам галоўнага інжынэра аўтапарку Аляксандра Калесьнікава па-беларуску. Але без выбачэньняў і без адказаў на пастаўленыя пытаньні. На ўсе наступныя звароты чыноўнікі адказвалі тыпавымі лістамі, спасылаючыся на канстытуцыйнае дзьвюхмоўе.

Цяпер рэчычане плянуюць зьвярнуцца ў вышэйстаячыя органы дзяржаўнага кіраваньня, у тым ліку — ў ААТ «Гомельаблаўтатранс» і Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь.

па матэрыялах Радыё Свабода

# Хварэць стала нявыгадна

11 ліпеня было ўведзена ў дзеянне новае Палажэнне аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах, зацверджанае пастановай Савета Міністраў № 569 ад 28 чэрвеня 2013 г.

З 11 ліпеня за першыя 12 дзён дапамога разлічваецца ў памеры 80% ад сярэдняга заробку (раней было — 6 дзён ў памеры 80%, а наступныя — 100%). Дапамога па доглядзе за хворым членам сям'і, як і раней, разлічваецца ў памеры 100%. Але сам разлік сярэдняга заробку істотна змяніўся.

Раней сярэдні заробак за дзень разлічваўся за апошнія 2 месяцы дзяленнем даходу за гэты перыяд на фактычна адпрацаваную колькасць дзён. Пры гэтым ужываліся павышаючыя каэфіцыенты, калі аклад (тарыф) у дадзены перыяд павышаўся. Цяпер жа сярэдні заробак разлічваецца зыходзячы з заробку за шэсць! месяцаў без усялякіх каэфіцыентаў.

Напрыклад, калі вы хварэлі ў ліпені, для разліку возьмецца заробак са студзеня па чэрвень. Які ў вас заробак быў у студзені, памятаеце? За гэты перыяд на нашым прадпрыемстве, напрыклад, заробак павышалі некалькі разоў.

У краіне, дзе толькі афіцыйная інфляцыя дасягае 21% (за апошні год), а па неафіцыйных звестках — болей за 23% у гэтым годзе, улічваць заробак за паўгода — гэта проста рабаванне.

Пры гэтым прэміі і іншыя выплаты

заканчэнне на стар. 8

# Белорусы еще больше охладели к России

**Хотя отмеченные ранее тренды во внешнеполитических ориентациях белорусов в целом остаются прежними, вновь отмечается некоторое "похолодание" отношения к России - таковы выводы социологов Независимого института социально-экономических и политических исследований (Вильнюс) на основании результатов соцопроса в сентябре-2013.**

Если бы сегодня проходил референдум об объединении Беларуси и России, за проголосовали бы 27.6%, против - 46.9% респондентов (в июне было 31.2% vs. 46.5%).

Но это автоматически не привело к росту проевропейских ориентаций. На референдуме о вступлении в Европейский Союз за проголосовали бы 37.8%, против - 37.5% (в июне 37.7% против 38.1%), а при необходимости выбора на гипотетическом референдуме между объединением с Россией и вступлением в Европейский Союз за первый вариант высказываются 35.6%, а за второй 42.4% (в июне 40.8% против 41%).



Геополитический выбор для большинства белорусов - многоуровневый и многосоставной процесс, определяемый факторами текущей политики, фундаментальными ценностями и реальными возможностями. Так, оценивая последствия дипломатического конфликта между Беларусью и США, который разгорелся весной 2008 г., большая часть опрошенных (41.6%) считают, что "обязательно нужно восстановить нормальные отношения с США" ("не обязательно" - 25.5%, "мне это безразлично" - 28.2%). Большая часть тех, кто хотел бы переехать в другую страну на постоянное место жительства (на протяжении многих лет эта цифра не опускается ниже 40%), называют Германию (11.2%) и США (9.3%). Россию называют только 3.8%, а оценивая, где сегодня живется лучше населению, большая часть респондентов считает уровень жизни в России и Беларуси одинаковым. Но в реальности абсолютное большинство из 25.8% белорусских граждан, работающих сегодня за границей, работают в России (14.4%), 2% - в Украине, 2.8% - в Польше, а во всех других странах Запада - от 0.9% (в США) до 0.1% (в Италии).

Вероятно именно фундаментальными факторами - историческим прошлым и культурной общностью - объясняется и то, что большинство белорусов в целом положительно относятся к современным формам интеграции с Россией, несмотря на "внешнеполитические зигзаги" своего руководства и критику со стороны оппозиции, говорят в НИСЭПИ. Так, последствия вступления Беларуси в Единое экономическое пространство с Россией и Казахстаном 15.5% оценивают как только положительные, почти 30% видят больше положительных, чем отрицательных, 12.3% - больше отрицательных, чем положительных, и лишь 4.3% - только отрицательных (25.4% не видят никаких последствий).

К созданию в 2015 г. Евразийского Союза с участием Беларуси, Казахстана, России и, возможно, других стран, 37.6% относятся положительно, 37.4% - безразлично, 13.8% - отрицательно. По мнению 37.9%, в течение ближайших 10 лет Беларусь "останется суверенным государством, но ее зависимость от России усилится", 18% - что "она войдет в состав России", 25.1% - что она "останется суверенным государством и ее независимость от России усилится". В то же время, большая часть опрошенных (44.1%) считают, что если вхождение Беларуси в Россию и произойдет, это отрицательно отразится на жизни населения страны (положительно - 23.5%, никак не отразится - 21.9%).

Максим Ковалев

# Велоспорт. Василий Кириенко выиграл 18-й этап "Вуэльты"

**Белорус Василий Кириенко выиграл 18-й этап "Вуэльты" по дорогам Испании, Франции и Андорры.**

32-летний уроженец Речицы ушел в отрыв за 50 км до финиша и не отдал лидерство уже никому.Таким образом, он стал вторым в истории белорусом, который выиграл этап этой престижной многодневки. Ранее в 2010-м году на этапе "Вуэльты" побеждал Евгений Гутарович.

Результат Кириенко — 4:46.47. Вторым на финише был Крис Анкер Серенсен из Дании (+ 0:00:28), третьим — австралиец Адам Хансен (+ 0:01:18).

Ян Ільін

# Хварэць стала нявыгадна

заканчэнне, пачатак на стар. 6

ўключаюцца ў заробак прапарцыянальна адпрацаваным дням у перыядзе. На практыцы гэта азначае, што, калі работнік адпрацаваў не поўны месяц яго прэмія (ужо і так разлічаная за няпоўны месяц) яшчэ раз разлічваецца прапарцыянальна адпрацаванаму часу.

Так, напрыклад, работнік знаходзіўся ў водпуску 15 дзён, атрымаў акрамя аклада прэмію ў 400 тыс. руб. Пры разліку сярэдняга заробку для «бальнічнага» бухгалтар возьме аклад ды надбаўкі да яго ў поўным памеры, а прэмію — у памеры 200 тыс. руб. (бо адпрацавана толькі палова месяца). Быў у водпуску і адпрацаваў 1/3 нормы дзён — у разлік возьмуць 1/3 прэміі і г.д.

Ці адпавядае гэта якой--небудзь логіцы, калі толькі не жадаеш штучна зменшыць сярэдні заробак?

Аднак сапраўды, дапамога па часовай непрацаздольнасці цяпер разлічваецца за кожны дзень хваробы (каляндарны), а не за дні па графіку працы работніка, як раней.

Толькі вось і сярэдні заробак па новым разліку атрымліваецца значна меншы, бо разлічваецца цяпер дзяленнем на каляндарныя дні, а не на адпрацаваныя.

Такім чынам, калі, напрыклад, жанчына за 14 дзён непрацаздольнасці па доглядзе дзіцяці да 14 гадоў раней атрымала б каля 2 млн руб. дапамогі пры заробку (разам з прэміяй) каля 4 мільёнаў рублёў, то сёння яна атрымае менш за 1,4 млн руб.

Новым дакументам былі адменены некаторыя «льготныя» катэгорыі работнікаў.

Так, раней круглыя сіраты да 21 год, бацькі, якія маюць трох і болей дзяцей, а таксама асобы, у якіх выпадак непрацаздольнасці наступіў падчас выканання службовых абавязкаў ці ратавання чужога жыцця, мелі права на дапамогу ў памеры 100% сярэдняга заробку. З 11 ліпеня гэтыя нормы былі адменены, і дадзеныя катэгорыі грамадзян падпадаюць пад агульны парадак — 80% за першыя 12 дзён.

Чулі пра двух мужчынаў, якія выратавалі дзяўчынку пяці гадоў і яе маці на рацэ Сож? Дык вось нават ім дапамога будзе выплочвацца ў памеры 80%. Мо «не трэба было лезці»?

Што датычыць работнікаў, які не маюць працоўнага стажу ці стаж якіх меншы за 6 месяцаў (напрыклад, маладыя спецыялісты), то іх дапамога разлічваецца не з заробку, а з 50% найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (у так званым «мінімальным памеры»), падзеленую на колькасць дзён у месяцы ды памножаную на колькасць дзён непрацаздольнасці.

Так, за 3 дні такія катэгорыі работнікаў у верасні атрымалі па 51 315 рублёў. Гэта грошы, якіх хопіць хіба што на бінты...

Што датычыць цяжарных жанчын, то новы парадак разліку дапамогі па цяжарнасці і родах прымяняецца ўжо са студзеня гэтага года ў сувязі з уступленнем у дзеянне закона «Аб дзяржаўных дапамогах сем’ям, якія выхоўваюць дзяцей».

І калі ўлічваць тое, што іх дапамога назначаецца не на адзін тыдзень, а на 126 дзён (ці на 140 — у «зоне»), то іх дапамогу ўрэзалі адчувальна: так, пры акладзе 4,5 млн руб. жанчына атрымала летам дапамогу на 9 мільёнаў меншую, чым калі б ёй разлічвалі па-ранейшаму. Падтрымкай мацярынства ды дзяцінства такую палітыку не назавеш.

Анэля Мнішкава




**Калі парушаюцца вашыя правы і вам патрэбная бясплатная юрыдычная дапамога, праваабаронцы заўсёды дапамогуць вам!**

**Звяртайцеся па тэлефонах:**

***Валерый Пуціцкі***

**тэл.: 8 029 3517978**

***Мікалай Пытлеў***

**тэл.: 8 029 3048239**

*“Рэчыцкі агляд” №6(53)*
*Галоўны рэдактар - **Валерый Пуціцкі***
*Наклад 299 экз. надрукаваны на ксераксе*
*Распаўсюджваецца бясплатна*

**www.rechyca.org**